

# НАША СЛОВА

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

(Выходзіць з сакавіка 1990 г.) **№ 1 (317)** 3 — 9 студзеня 1997 г. Кошт -- 1500 рублёў




16 снежня ў сталічным Доме літаратара выступаў вядомы і на Беларусі спявак Данчык (Багдан Андрусішын). Канцэрт пачаўся з "Беларусачкі", а скончыўся песняй "У гушчарах, затканых імглою...", якую разам з спеваком спявала стоячы зала, якая, дарэчы, была перапоўненая.

Г. К.

Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **Даючы інтэрв'ю газеце "Вашынгтон пост", Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сказаў:** "Новы падзел Еўропы ў выніку пашырэння НАТО нанясе Беларусі большы ўрон, чым любой іншай краіне, паколькі лінія падзелу пройдзе ўздоўж беларускіх граніц". Аднак Прэзідэнт чарговы раз пацвердзіў гатоўнасць Беларусі і ў далейшым супрацоўнічаць з НАТО ў рамках "Партнёрства дзеля міру".

○ ***За мінулы 1996 год наша краіна аплаціла толькі 66 працэнтаў паставак расійскага газу.*** *Па словах прадстаўнікоў Міністэрства паліва і энергетыкі, падобная сітуацыя склалася з-за вялікай колькасці ўнутраных даўжнікоў, агульны доўг якіх за энерганосьбіты на пачатак снежня склаў 4,4 трыльёна рублёў. Пара ўжо ўсім прывыкнуць, што за ўсё трэба плаціць.*

○ **Міністр паліва і энергетыкі Беларусі Валянцін Герасімаў падвёў некаторыя вынікі работы паліўнаэнергетычнай галіны ў 1996 годзе:** "Адыходзячы год быў для галіны даволі цяжкім, але, адначасова, паспяховым". Мяркуецца, што ў 1997 годзе на самым яго пачатку тарыфы на цеплаэнергію будуць павышаныя на 15 працэнтаў. Міністр паліва і энергетыкі не забыўся пахваліцца тым, што "не ведае тых раёнаў рэспублікі, дзе сёння няма цяпла і гарачай вады". Дай Бог, каб так было на самай справе, бо зіма яшчэ амаль уся наперадзе.

○ ***Падведзеныя вынікі рэспубліканскага конкурсу для вучняў старэйшых класаў "Інтэлект".*** *Конкурс быў заяўлены Беларускім саюзам моладзі і праходзіў у тры туры. Каб перамагчы, трэба было добра ведаць гісторыю і літаратуру. 20 пераможцаў узнагароджаныя пуцёўкамі ў летнік "Зубраня".*

○ **У краіне адбылося афіцыйнае адкрыццё першай на нашай тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны "Брэст".** Паводле слоў першага намесніка міністра знешніх эканамічных сувязяў, "замежныя і айчынныя інвестары выказалі жаданне ўкласці ў развіццё "Брэста" каля 100 млн. долараў". Сума невялікая, але...

○ ***Старшыня Дзяржкамдруку Уладзімір Бельскі падвёў вынікі нарады кіраўнікоў міністэрстваў па друку і інфармацыі краін СНД,*** *дзе паведаміў, што зараз ідзе праца па стварэнні Інфармацыйнага цэнтра Савета Еўропы ў Менску. На наступным пасяджэнні калегіі Дзяржкамдруку будуць вырашацца пытанні далейшай падтрымкі СМІ і кнігавыдання ў Беларусі.*

## Шаноўныя чытачы!

*Сардэчна вітаем Вас у новым годзе. Па лістах у рэдакцыю і тэлефонных званках адчуваем, што многія з падпісчыкаў застаюцца вернымі газеце на працягу некалькіх гадоў, а некаторыя — і з самага пачатку выхаду "Нашага слова" ў свет. Лічым за гонар сяброўства з Вамі. Вы не аднойчы падтрымлівалі веру супрацоўнікаў рэдакцыі ў карысці для роднай Беларусі, яе народа нашай сціплай журналісцкай справы.*

*Сардэчна вітаем у клубе "Нашага слова" і тых, хто толькі сёлета выпісаў газету. Пастараемся не расчараваць сваіх шаноўных чытачоў і падпісчыкаў. У нас вы заўсёды знойдзеце праўдзівыя звесткі пра духоўнае жыццё беларускага народа. Будзьма ж і надалей разам у сённяшні смутны час. Жыве Беларусь!*

**Рэдакцыя.**

# З Новым годам, браты-беларусы!

*Рана келіх хаўтурны ліць*
*Па Айчыне, душой збалелай,*
*Покуль небам скрозь ноч ляціць*
*Бусел — сцяг бел-чырвона-белы!*




Паштоўка з калекцыі **Рыгора БАРАДУЛІНА.**

***Ніл ГІЛЕВІЧ***

## Навагодняе

Вось і Новы ўжо год на парозе.
Самы раз бы вітаць нам яго.
Ад чаго ж нашы сэрцы ў трывозе?
Душы немач гняце — ад чаго?

Ды, відаць, ад таго, што не знаем,
З чым ідзе ён да нас? Што нясе?
Ці гусцець будуць хмары над краем,
Ці радзець і сплываць пакрысе?

Ці і ў Новым злябы-запраданцы
Будуць нас у ярмо заганяць —
Ці мы зможам бядзе не паддацца
І за годнасць сваю пастаяць?

Веру: годнасна рушым паходам!
І таму аднаверцам-братам:
З Новым Годам, кажу, з Новым Годам!
Зычу шчасця і мужнасці вам!

1996, снежань.

## Віншуюць беларусы замежжа

Разам з усімі беларусамі ЗША шлём чытачам і сябрам газеты "Наша слова" сардэчныя віншаванні з Калядамі і Новым годам. Мы ўсе тут верым, што народ Беларусі збярэцца з сіламі і знойдзе годнае выйсце з крызісу, у якім апынулася краіна. Верым, што Беларусь будзе незалежнай і дэмакратычнай краінай з годным і заможным жыццём для ўсіх добрых людзей.

Мы сэрцам з вамі, дарагія суродзічы!

**г. Кліўленд (ЗША).**



*Merry Christmas and a Happy New Year!*

*Тамара і Міхал Белямук*

***Марыя БАРАВІК***

***Навагодні роздум***

# Прыйдзі, белы снег...

*Чаму — сляза?*
*Час Навагодняй ночы...*
*У неба — светла здзіўленыя вочы.*
*Там — зоркі.*
*Тут рассеяліся мы...*
*Адно — усе ў абдымках у зімы.*
*О, як звініць мая трывога-пчолка!*
*Прабачце мне, і Машанька, і ёлка —*
*Малітвенная з'ява... у душы.*
*Бог добры, супакой!*
*Дапамажы!*

Можа гэта прадчуванне ўсеагульнага выпрабавання?.. У вершы занатаваны стан душы ў першыя хвілінкі 1996 года. А сёння мы з ім развіталіся. Ён пражыты ў хваляваннях, турботах, стрэсах і, мабыць, у нейкіх дарэмных намаганнях...

Палітычнае беспрасвецце кастрычніцка-лістападаўскіх дзён — нешта небывалае па сваёй недарэчнасці ў жыцці майго пакалення. Шкада, што далёка не ўсе адкрылі і ўсвядомілі гэта, далёка не ўсе жахнуліся таму, што адбылося.

Чаму небывалае? Таму што ўся негатыўная з'ява — відавочная. Раней для мяне, напрыклад, падман быў за ружовым туманам. Ён не кідаўся ў вочы так выразна. Я верыла ў лепшае: так званую "светлую будучыню", у нейкую аб'ёмную катэгорыю — грамадскі розум. Можа і ў дабрыню?

А сёння ў вачах стаіць малюнак: мае суайчыннікі шчыльным натоўпам штурмуюць аўтобус... Наваколле сатрасае кіраўнічы голас: "Раз-два!.. Узялі!"

...Ламавы прыём. А ён жа, вобразна кажучы, прымяняўся і на палітычнай арэне. Бачыў Бог (Ён заўсёды ўсё бачыць). Бачылі і людзі, удумлівыя, шчырыя Беларусы, і не Беларусы, але сумленныя і дальнавідныя, якія таксама з'явіліся носьбітамі боскіх пакут, бо зноў было крыжаванне. Укрыжаванне Любові да Праўды, да Прыстойнасці, да Свабоды, да Святыні, да Беларусі...

Зноў мы адляцелі далёка назад. І пакідаем у спадчыну наступным пакаленням свае балючыя зямныя праблемы: родную мову, нацыянальную годнасць, права на свабоду, якую даў нам Бог, а не нейкі там пан-губернатар. І сумна, што большасць гэтага і не зразумела.

А любіць Айчыну трэба не паказной любоўю са штучна прыдуманымі словамі "вялікая і малая Радзіма". Неабходна любіць канкрэтную Бацькаўшчыну і паважаць Вялікі Свет, сябраваць з ім, калі ён падзяляе з намі сваю шчырасць. Мы павінны гаварыць на Радзіме яе мовай: казаць малітвы, пісаць вершы, спяваць песні. І рабіць усё гэта пад ганаровым знакам сваёй прыналежнасці да Беларусі.

Госпадзе! Адратуй нас ад нечуванай стомы, ад унутранага апусташэння, ад страты надзеі на высокі чалавечы сэнс. Памажы нам сказаць: "З Новым годам!" Сказаць усім, памятаючы, што мы ляцім у часе і праляцелі ўжо адлегласць, хто якую... Аднак, нейкі прамежак — разам. У адначассе. Людзі розных поглядаў і тэмпераментаў, розных уражанняў і паводзін, фантазій і памкненняў, людзі розных памылак і захапленняў. Пражытае — адзін з дарагіх адрэзкаў часу, адпушчанага нам Богам. Там мы былі: жылі, спрачаліся, змагаліся, радаваліся і засмучаліся. Мы адчувалі сваю зямную сутнасць. І набылі вопыт. Так ці не так вялі мы сябе ў часе — ён наш. Бо ён стварыў гісторыю, памяць...

Што ж, падзякуем Богу за гэта! Бо які наш розум, інтэлект, так мы сябе і паводзілі.

Якое шчасце ўсё ж, што момант сустрэчы Новага года — не палітычнае свята, а, проста, светлае імгненне стварэння казкі, якая асацыіруецца з прыродай: чароўным снегам, ёлачкай і яе замілаванымі героямі, і з нашымі, чыста чалавечымі жаданнямі і надзеямі — будзе лепей.

Божа! Уратуй нас ад новых памылак! Памажы нам, нягледзячы на рэальнасць, шчыра, добразычліва вымавіць адзін аднаму святочнае: "З Новым годам! З Новым часам, азораным і апрамененым радасцю!"

*Прыйдзі, белы снег павольны*
*У белы свет навакольны,*
*Каб сталі думкі-сняжынкі*
*Лёгкія, як пушынкі,*

*Каб быць нам у захапленні*
*На гэтым чыстым імгненні*
*І ў найсвятлейшай прыродзе*
*У Новым годзе...*

м. Падсвілле.

## Лаўрэат-1996 у галіне літаратуры — супрацоўнік NS

Абвешчаныя лаўрэаты Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1996 года.

Прэмію імя Якуба Коласа за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва атрымалі укладальнікі (а ў многіх выпадках і перакладчыкі) Бібліятэкі дзіцячай літаратуры народаў СССР у перакладзе на беларускую мову. Сярод іх — супрацоўнік нашай рэдакцыі пісьменнік **Уладзімір АНІСКОВІЧ**. Разам з ім лаўрэатамі сталі пісьменнікі **Уладзімір КАРЫЗНА** і **Валянцін ЛУКША.** Кніжкі сапраўды атрымаліся добрыя (тамоў — 15), уклад у беларускую важкі, так што сардэчна віншуем лаўрэатаў.

**Л. М.**

Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета

Наша Слова

Our Word
Unser Wort
Naša Słowa

Падпісны індэкс 63865

ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 83.

*Рэдакцыйная калегія:*
Эрнэст ЯЛУГІН — **галоўны рэдактар**

Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
Янка БРЫЛЬ,
Анатоль БУТЭВІЧ,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Вольга КУЗЬМІЧ,
Уладзімір ЛАМЕКА,
Уладзімір ПАНАДА,
Зміцер САНЬКО,
Здзіслаў СІЦЬКА,
Алег ТРУСАЎ,
Генадзь ЦЫХУН.
**Адказны сакратар** — Уладзімір АНІСКОВІЧ.
**Кампутарны дызайн** — Ірына ДЗІВІНА.
**Кампутарны набор**: Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА.
**Тэхнічны рэдактар** Валянціна КАРАТКЕВІЧ.
**Карэктары:** Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.

Адрас рэдакцыі: 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
**Тэлефон: 233-17-83.**

Кампутарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.

*Падзеі і меркаванні*

*У асяроддзі сяброў ТБМ, ТБШ і іншых беларускіх арганізацыяў усё часцей гучаць думкі аб неабходнасці прававой абароны сваіх законных грамадзянскіх інтарэсаў і патрабаванняў. Гэты абгрунтаваны інтарэс і стаў падставаю для гутаркі карэспандэнта "Нашага слова" У.Панады са старшынёй Беларускага Хельсінкскага камітэта Таццянай Процькай.*

## "КАБ ЖЫЦЬ ГОДНА, БЕЛАРУСАМ ДАВЯДЗЕЦЦА НАВУЧЫЦЦА БАРАНІЦЬ СВАЕ ПРАВЫ"

*Кароткі жыццяпіс Таццяны Процькі: адукацыя — вышэйшая, скончыла фізічны факультэт БДУ і аспірантуру Інстытута філасофіі і права АНБ, абараніла кандыдацкую дысертацыю. Навуковая спецыялізацыя — гісторыя навукі і культуры Беларусі. Працавала ў Інстытуце гісторыі АНБ. Там у 1994 годзе скончыла дактарантуру з тэмай даследу "Фармаванне і развіццё таталітарнай сістэмы на Беларусі ў перыяд з 1917 па 1941 гады".*

*У кастрычніку 1995 года з яе актыўным удзелам быў створаны Беларускі Хельсінкскі камітэт, зарэгістраваны 1 лістапада 1995 года. З таго часу сп-ня Процька з'яўляецца старшынёй Рады БХК.*

**— Паняцце правоў асобы для большасці беларусаў застаецца абстракцыяй. Калі яно было сфармулявана і што азначае?**

— Правы асобы існавалі заўсёды незалежна ад таго, усведамлялі нехта гэта ці не. Чалавек заўсёды існаваў у атачэнні іншых людзей, ягоныя інтарэсы заўсёды сутыкаліся з інтарэсамі іншых. І без павагі да чужых патрэбаў было б немагчымым самое існаванне чалавечай супольнасці, бо чалавек — істота калектыўная. Такім чынам, самыя надзённыя правы чалавека сталі маральнымі нормамі, якія ў дзяржаве набылі форму законаў. І беларусы могуць ганарыцца тым, што ў краіне іхніх продкаў — Вялікім Княстве Літоўскім — правы чалавека былі зафіксаваныя як нормы права.

Калі казаць пра сучасны свет, дык у ім правы чалавека ёсць неад'емнай часткаю таго ладу жыцця, які людзі старэйшага пакалення называюць капіталістычным. Бо інстытут прыватнай уласнасці, на якім пабудавана жыццё краінаў, што могуць быць для нас прыкладам, патрабуе найбольш поўнай абароны правоў асобы.

**— Парушэнне правоў асобы іншай асобаю называецца крымінальным злачынствам. Гэта значыць, што і парушаць правы чалавека, і гарантаваць іх можа толькі дзяржава?**

— Правы асобы могуць парушацца як дзяржавай, так і нейкай супольнасцю. Таму дзяржава мусіць быць гарантам захавання гэтых правоў. Так адбываецца там, дзе яны з'яўляюцца падставаю заканадаўства.

Вядомы прэцэдэнт, калі шэраг грамадзян Германіі звярнуліся ў Канстытуцыйны суд краіны са скаргаю на тое, што ў школах, дзе вучыліся іхнія дзеці, выкарыстоўвалася хрысціянская сімволіка. На думку атэістаў і прадстаўнікоў іншых веравызнанняў, яе ўжыванне парушала свабоду выказу сваёй веры ці яе адсутнасці іхнімі дзецьмі. Канстытуцыйны суд прызнаў слушнасць гэтых прэтэнзіяў і запатрабаваў ад адміністрацыі школаў зрабіць адпаведныя захады.

Менавіта гэтак і маюць вырашацца праблемы грамадзянскай роўнасці — не грамадскімі арганізацыямі, а дзяржавай, якая кантралюе выкананне сваіх законаў.

**— Грамадзян Беларусі гэта будзе тычыцца не скора. Што, у такім выпадку, можа зрабіць ваша арганізацыя?**

— У нашай краіне сапраўды ўсё адбываецца наадварот. А што можам мы? Паведаміць аб гэтым сусветнай супольнасці праз сусветную Хельсінкскую федэрацыю ды іншыя праваабарончыя арганізацыі. Мы можам пракантраляваць выкананне ўладамі законаў — дзеля таго нашыя сябры прысутнічаюць на многіх судовых працэсах. Мы можам даць тым, хто гэтага патрабуе, юрыдычную кансультацыю.

**— А чаго і чаму вы не можаце?**

— Мы не можам надаць перавагу законам у спаборніцтве іх з чыесьці нядобрай воляй. Гэта будзе толькі тады, калі ў нашым грамадстве паўстане слой людзей новай, не савецкай ментальнасці, якія будуць імкнуцца захаваць і абараняць свае правы, якія будуць дамагацца іх гарантавання. Але гэтак будзе не хутка. Нашая краіна імкнецца захаваць эканамічны лад часоў камунізму, а ў ім няма месца ўласнікам — людзям, якія ведаюць не толькі абавязкі перад урадам, але і свае правы перад ім.

**— Але ж актуальнай ва ўсім свеце застаецца праблема ўраўнаважання правоў асобы і супольнасці, вырашаць якую мусіць дзяржава...**

— Ва ўсім свеце ёсць людзі, імкненні якіх ідуць насуперак жаданням іншых. Так, не толькі ў Беларусі, але і ў мностве краінаў свету ёсць людзі, якія, напрыклад, выступаюць супраць інтэграцыі сваіх дзяржаваў у нейкія наднацыянальныя супольнасці альбо патрабуюць навучання дзяцей на роднай мове. Мноства з іх сваёй дзейнасцю прыцягваюць увагу дзяржавы, у тым ліку і яе сілавых структураў. Дзяржава ўмешваецца ў іх жыццё — спецыяльныя службы вядуць цікаванне, подслух тэлефонных размоваў, існуюць так званыя "забароны на прафесійную дзейнасць". Гэта — формы абмежавання правоў асобы. Але ў якіх выпадках дзяржава мае права іх ужываць? У якіх выпадках інтарэсы адных грамадзян патрабуюць абмежавання правоў іншых? Дыскусіі аб гэтым вядуцца па ўсім свеце.

Але ў Беларусі, як вядома, такой праблемы афіцыйна не існуе. Тут гавораць аб інтарэсах народа, але дзеля абароны гэтых інтарэсаў кожнага могуць раскатаць па падлозе — успомніце рэпрэсіі супраць удзельнікаў нядаўніх грамадскіх акцыяў. Пацвярджэнне маім словам — лёс паэта Славаміра Адамовіча. Сведчанняў ягонай віны не існуе, іх толькі шукаюць, а тым часам гэты чалавек сядзіць у турме. У краінах Захаду падобнае назвалі б надзвычайным здарэннем, бо нават удзельнікі тэрарыстычных арганізацыяў там не караюцца за адну толькі да іх прыналежнасць.

**— Вы гаварылі пра залежнасць стану прававога ад стану эканамічнага. Гэта значыць, што цяперашнія спробы захаваць набыткі сацыялізму не паспрыяюць праву?**

— У грамадстве, дзе першынства надаецца прыватнай уласнасці, грамадзяне разумеюць: усё, што называецца дзяржавай, складаецца з іхняй працы, іхніх падаткаў. Таму яны не дапускаюць уціску з боку дзяржаўных чыноўнікаў, якія жывуць за іх кошт.

Мы ж 70 гадоў жылі ў іншых умовах, калі ўся маёмасць называлася агульнанароднай, але на самой рэчы належала дзяржаве. У той сістэме правы асобы былі замененыя правамі дзяржавы. Гэта значыць — жыццё асобнага чалавека не каштавала нічога. А калі не з'яўляецца каштоўнасцю чалавечае жыццё, дык усе правы гэтага чалавека дзяржаваю папросту ігнаруюцца.

Гэта было рэальнасцю. Праўда, і ў сталінскай канстытуцыі СССР 1936 года, і ў пазнейшых савецкіх канстытуцыях былі занатаваныя правы на працу, на адпачынак ды іншыя. Але гэтыя нормы не былі рэалізаваныя. І таму ў людзей, якія нарадзіліся і выраслі ў СССР і дагэтуль называюць сябе грамадзянамі гэтай краіны, няма ўяўлення аб уласных правах — яно папросту не сфармавалася. Гэтыя людзі — носьбіты прававога нігілізму, зводы законаў для іх — проста папера.

Гэтыя людзі — нашыя суайчыннікі, іх мільёны. Яны жывуць у Беларусі — краіне, дзе адсутнічае прыватная ўласнасць і няма законаў, якія яе абараняюць, дзе ўсё належыць не грамадзянам, а дзяржаве.

Да таго ж, сёння ў Беларусі фактычна дзейнічае прэзідэнцкая Канстытуцыя, паняцце правоў чалавека ў якой нават пашыранае ў параўнанні з Канстытуцыяй 1994 года. Але ці гарантуе дзяржава рэалізацыю правоў свабоды слова, інфармацыі, мітынгаў, недатыкальнасці асобы? Думаю, на гэтае пытанне вашыя чытачы маюць уласны адказ.

Мы ж дагэтуль жывём у стане дэкларававай, але несапраўднай маёмаснай роўнасці, у сістэме, якая бярэ ў чалавека тое, што лічыць патрэбным, — гэта і падаткі, за выкарыстанне ніхто не дае справаздачы, і абавязковая, безальтэрнатыўная вайсковая служба, і шмат іншага. Нашая дзяржава выхоўвае ў людзей пачуццё залежнасці ад сябе, даючы ім частку забранага — бясплатныя, затое дэфіцытныя адукацыю, жытло, медычнае абслугоўванне.

Акрамя гэтай, мы маем яшчэ адну спадчыну савецкай сістэмы. Грамадзянская свядомасць беларусаў — асабліва гэта тычыцца людзей старэйшага пакалення — персаніфікаваная. Для іх дзяржава — гарант іхніх правоў — увасобленая ў адным чалавеку, яе кіраўніку. Свае асабістыя правы яны дэлегуюць нават не дзяржаве, а чалавеку, з якім яе атаесамляюць.

**— Чаму?**

— Правы асобы патрэбны таму, хто лічыць сябе асобаю, а не шрубкай у дзяржаўнай машыне. З наяўнасці правоў вынікае патрэба іх рэалізацыі, а значыць — наяўнасць абавязкаў. За час панавання таталітарнага савецкага рэжыму людзі з гаспадароў свайго лёсу ператварыліся ў наймітаў урада, якіх той забяспечвае. Чалавеку лёгка і вельмі спакусліва адмовіцца ад уласных правоў, не вырашаць нічога самому, спісаць усю адказнасць на "народнага прэзідэнта". Інстытут жа прыватнай уласнасці не дазваляе так жыць.

**— Ці існуюць нейкія тыповыя для Беларусі парушэнні правоў чалавека?**

— Мы атрымліваем усё больш звестак аб тым, як людзі, якія маюць пэўныя перакананні і моўную арыентацыю, не могуць рэалізаваць сваё права на працу. Паспрабуйце загаварыць па-беларуску ў аддзеле кадраў дзяржаўнага прадпрыемства! Няхай тыя, хто вас чытае, падумаюць, ці выконваюцца іхнія правы на свабоднае атрыманне інфармацыі, на свабоднае вызнанне сваёй веры, на свабоднае выяўленне волі? Падзеі апошняга часу паказалі, як рэалізуецца права недатыкальнасці асобы і жытла.

Вашая газета шмат увагі надае праблемам мовы. Узгадайце, як выконваецца права грамадзян на свабодны выбар мовы навучання! Спробы яго рэалізацыі трактуюцца не інакш, як выказы нацыяналізму. Але ж Агульная дэкларацыя правоў чалавека гарантуе навучанне на роднай мове нават нацыянальным меншасцям! У Беларусі яго пазбаўляецца тытульная нацыя. У свеце гэта незвычайны выпадак.

**— Якія высновы з гэтага можна зрабіць?**

— Правы асобы належаць ёй ад нараджэння. Гэта не паперкі і дэкларацыі. Гэта нашае жыццё. Каб жыць годна, беларусам давядзецца навучыцца бараніць свае правы. І ў гэтым мы гатовыя дапамагчы кожнаму.

**Распытваў У. ПАНАДА.**

***Аляксандр ПАДЛУЖНЫ,***
*дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АНБ, акадэмік*

## Год вялікіх турбот

Адышоў у нябыт 1996 год — год вялікіх клопатаў, перажыванняў, хваляванняў і турбот для калектыву Інстытута мовазнаўства. І звязана ўсё гэта не толькі з істотным пагаршэннем становішча беларускай мовы ў грамадстве, але і з нашым вялікім перасяленнем на новае месца працы ў суседні корпус па вуліцы Сурганава, 1, у якім зараз месцяцца практычна ўсе ўстановы гуманітарнага профілю Акадэміі навук. Мы ўдзячныя ім за тое, што, хоць і самі яны жывуць далёка не ў раскошы, усё ж знайшлі магчымасць вызваліць для нас памяшканні, праўда, раскіданыя ад другога да дзесятага паверхаў.

Наш выдатны класік Якуб Колас, імя якога з гонарам носіць інстытут, зусім справядліва зазначыў:

*Не дай Бог два разы жаніцца,*
*Не дай сяліцца два разы.*

У гэтым мы пераканаліся на ўласным вопыце, асабліва пры перамяшчэнні ў корпус Батанічнага саду картатэк сучаснай беларускай мовы, мовы твораў Якуба Коласа, старабеларускай мовы і іншых матэрыялаў, што дзесяцігоддзямі збіраліся некалькімі пакаленнямі беларускіх моваведаў, якія ўяўляюць нацыянальную каштоўнасць і складаюць некалькі мільёнаў картак. Гэту вялікую і працаёмкую работу моцна фемінізаваны калектыў не змог бы выканаць наогул, калі б не было дасягнута неабходнасці захавання ўсіх гэтых матэрыялаў з боку прэзідыума Акадэміі навук. Мовазнаўцы асабліва ўдзячныя намесніку прэзідэнта акадэміі В. В. Максіменку і яго службам, якія прыклалі шмат намаганняў, каб дапамагчы нам у вельмі працаёмкіх пярэбарах.

Азнаёміўшыся дэталёва з матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем навуковых даследаванняў, прэзідыум акадэміі выдзеліў інстытуту некалькі кампутараў і разам з Аддзяленнем гуманітарных навук і мастацтваў забяспечыў значнымі фінансавымі сродкамі публікацыю важнейшых, падрыхтаваных у інстытуце прац. Тут у першую чаргу неабходна назваць аднатомны "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", "Руска-беларускі слоўнік скарачэнняў", "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" (т. 5), "Гістарычны слоўнік беларускай мовы" (вып. 15, 16).

Калектыў інстытута спадзяецца, што ў наступныя гады захаваецца належная ўвага з боку кіраўніцтва Акадэміі навук да нашых патрэб. Хоць, калі гаварыць па справядлівасці, мы разумеем, што грошы акадэміі выдзяляюцца ў першую чаргу на правядзенне даследаванняў, а не на публікацыі. Названыя вышэй працы, як і "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы", разлічаныя на масавага чытача, "Слоўнік мовы газеты "Наша ніва", акадэмічная "Граматыка беларускай мовы", якія завершаны ў 1996 годзе, і рад іншых маюць агульнадзяржаўнае значэнне, павінны былі б лічыцца як дзяржзаказ і выдавацца за агульнадзяржаўныя сродкі. Але гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі беларуская мова стане дзяржаўнай не толькі на паперы.

Зараз яе роля ў грамадстве стала значна меншай, чым нават у савецкія часы. Аб'явіўшы яе адной з дзяржаўных, улады не паклапаціліся пра тое, каб яна стала абавязковай хоць для якой-небудзь катэгорыі грамадзян, не гаворачы ўжо пра дзяржаўныя органы. Узнікае пытанне: які сэнс укладзены ў юрыдычны тэрмін "дзяржаўная мова"? Ёсць спецыяльныя органы, якім дадзена права тлумачыць Канстытуцыю, і, будзем спадзявацца, што ў бліжэйшы час яны дадуць адпаведныя тлумачэнні адносна дзяржаўных моў. Але сусветная практыка сведчыць, што ў тых краінах, дзе ёсць дзве або некалькі дзяржаўных моў, веданне іх з'яўляецца абавязковым для кожнага грамадзяніна і асабліва для дзяржаўных служачых з верху да нізу. Іх у роўнай ступені вывучаюць у школе, аднолькава шырока выкарыстоўваюць на практыцы. У такіх умовах існуюць і аднолькавыя патрэбы ў літаратуры па гэтых мовах.

Вельмі хочацца спадзявацца, што так будзе і ў нас. У новым годзе мы жадаем гэтага сабе і ўсім аматарам роднага слова.

## Даты і падзеі ў студзені

**1** — 530 гадоў таму (1467) нарадзіўся Жыгімонт Стары, вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы.

— 300 гадоў таму (1697) у Віленскай брацкай друкарні "издася" "Евхологион или Требник, имеяй в себе церковная последования иереем подобающая..." Кнігу пачынала "Предисловия до чительника".

— 195 гадоў таму (1802) у Беластоку, які пасля падзелу Рэчы Паспалітай апынуўся ў Прусіі, заснаваны Павівальны інстытут ("Школа акушэрыі"). У Магілёве адкрыта павівальная школа ў студзені 1865 г.

— 170 гадоў таму (1827) у суд Лідскага павета зроблены данос на мастака Яна Траяноўскага, які "яго імператарскую вялікасць называў дэспатам, тыранам, урад — прыгнятальнікам". 7 студзеня Я. Траяноўскі быў арыштаваны і засуджаны на год пакаяння ў Віленскі дамініканскі кляштар.

— 85 гадоў таму (1912) нарадзіўся мастак Генрых Бржазоўскі.

— 78 гадоў таму быў падпісаны Маніфест урада пра абвяшчэнне БССР. Апублікаваны ўначы з 1-га на 2-е студзеня.

**2** — 65 гадоў таму (1932) нарадзіўся ў в. Відова Беластоцкага ваяводства Базыль Белаказовіч, польскі літаратуразнаўца, даследнік беларускай літаратуры XIX ст., творчасці беларуска-польскіх пісьменнікаў.

**3** — 220 гадоў таму (1777) амерыканскае войска Дж. Вашынгтона атрымала перамогу ў бітве пад Прынстанам, што сталася магчымым праз збудаваныя Касцюшкам абарончыя ўмацаванні.

— 125 гадоў таму (1872) пачаўся набор навучэнцаў у Віцебскую фельчарскую школу.

— 50 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Васіля Гігевіча.

**4** — 100 гадоў таму (1897) памёр Эмерык Гутэн-Чапскі (нарадзіўся ў Станькаве), славуты збіральнік беларускіх манетаў, медалёў і кніг. У 1894 годзе перабраўся ў Кракаў. Зборы перадаў Нацыянальнаму музею ў Кракаве.

— 170 гадоў таму (1827) нарадзіўся польскі мастак Ціт Малешэўскі, аўтар партрэтаў беларусаў — У. Сыракомлі, Т. Касцюшкі, Ю. Крашэўскага, А. Міцкевіча.

**5** — дзень ушанавання памяці святога Сымона Слупніка.

— 105 гадоў з дня нараджэння Адама Станкевіча, святара, мовазнаўца, пісьменніка, аднаго з арганізатараў беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху, асветніка, змагара за беларускую мову ў святынях і школах.

— 90 гадоў з дня нараджэння (1907) драматурга Кастуся Губарэвіча.

**6** — 85 гадоў з дня нараджэння (1912) кампазітара Льва Абеліёвіча.

— 85 гадоў з дня нараджэння (1912) акцёра Яўгена Палосіна, народнага артыста БССР.

— 55 гадоў з дня нараджэння мастака Мікалая Кірэева.

**Падрыхтаваў З. С.**

*Госць рэдакцыі*

# Найдзен ВЫЛЧАЎ: "Мы віталі незалежную Беларусь"

*Госць у нас незвычайны — замежны, але з краіны нам блізкай і дружалюбнай. Гэта саветнік па культуры балгарскага пасольства ў Менску спадар Найдзен Вылчаў. З ім гутарка.*

**— Добре дошли, спадар Вылчаў, вітаем Вас у нашай рэдакцыі. Мы сустракаемся пад Новы, 1997 год. Дык віншую Вас, спадар саветнік: честита Нова година — з Новым годам, з новым шчасцем! — як кажуць у нас.**

— Дзякую. Так, шаноўны Уладзімір, вось і Новы год надышоў — праз заснежаныя лясы і палеткі, перагарнуўшы апошнюю старонку вялікага календара і адкрываючы новую. Дай Бог, каб час запісаў на ёй добрыя навіны, ажыццёўленыя спадзяванні шчаслівых людзей. Дзякую яшчэ раз за пажаданне і адказваю Вам шчыра — з Новым годам, з новым шчасцем, браты-беларусы!

**— Спадар Вылчаў, Вы неаднойчы бывалі на Беларусі і Вас тут ведаюць як чалавека, паэта, перакладчыка твораў беларускіх пісьменнікаў. Цяпер, у нялрасты для нашай краіны час, Вы працуеце саветнікам па культуры балгарскага пасольства ў Беларусі. Ці задаволены Вы сваёй дзейнасцю на новай ніве? Якія ў Вас магчымасці ўплываць на развіццё беларуска-балгарскіх адносін?**

— Я трапіў у Беларусь яшчэ ў маладыя гады. І з тае пары — ужо дзесяцігоддзі — Беларусь пастаянна прысутнічае ў маім жыцці. Я нібыта парадніўся з ёй. І вось я зноў тут. Цяпер у новай якасці ў пасольстве маёй краіны. Вырашаю службовыя задачы ў пастаянным імкненні паглыбіць свае веды ў гісторыі беларускага народа, больш даведацца пра сённяшняе яго жыццё. Гэта супадае з маімі асабістымі інтарэсамі і як пісьменніка.

**— Скажыце, калі ласка, як Вы прыйшлі да беларускай мовы, да беларускай літаратуры?**

— З цікавасці, захаплення, самавукам... А з цягам часу, у барацьбе з фразамі і слоўнікамі пачаў перакладаць вершы беларускіх паэтаў з арыгінала — ёсць што ўспомніць! Асабліва з часоў 60-х, 70-х, калі мы здолелі даць балгарскаму чытачу Купалу, Коласа, Танка, Панчанку...

**— І ўсё гэта Вы рабілі адзін?**

— На пачатку — так, але аднаму было не справіцца з морам беларускай паэзіі, і я пачаў прыцягваць да работы іншых перакладчыкаў — як Іван Давыдкаў, Андрэй Германаў, Марка Ганчаў, Пырван Стэфанаў. Пазней да нас далучыліся Янко Дзімаў, Хрыста Папоў ды іншыя. Дзякуючы гэтаму пабачылі свет томікі вершаў Броўкі, Вялюгіна, Гілевіча, Барадуліна. Рыхтаваліся пераклады Бураўкіна, Вярцінскага, Еўдакіі Лось, Караткевіча, Сіпакова і іншых паэтаў.

**— Значыць, уся ўвага балгарскіх перакладчыкаў скіроўвалася на беларускую паэзію?**

— О, не!.. У той час ужо "Зацюканы апостал" Макаёнка выйшаў на сцэну балгарскага тэатра, вялікімі тыражамі пайшлі ў балгарскія кнігарні і чытальні кнігі Быкава, Шамякіна, Брыля, Караткевіча, Чыгрынава... Але тут надышлі вялікія перамены...

**— Як гэтыя перамены сустрэла ваша грамадства?**

— У нас тыя перамены, "перабудову" сустрэлі з захапленнем, мы здалёк віталі незалежную Беларусь. Але хутка пераканаліся, што не прыходзяць да нас вашы выданні — "ЛіМ", "Полымя", "Маладосць", "Нёман". Ад беларускіх сяброў даведаліся, што і ў Беларусь не прыходзяць балгарская перыёдыка, кнігі. Стала зразумела, што ў працэсе вялікіх пераменаў здарылася нейкая аварыя. Дэмакратыя замест таго, каб умацаваць створаныя культурныя масты паміж дзвюма славянскімі краінамі, разбурыла іх. Ну, няхай не разбурыла, але фактычна спыніла па іх рух!

Можа, словы гэтыя занадта моцныя, то будзем гаварыць спакайней. Зрэшты, у Сафіі актыўна дзейнічае беларускае пасольства, у Менску — балгарскае. Адна з нашых задач — акрамя палітычных, інфармацыйных, эканамічных і розных іншых кантактаў — развіваць сувязі ў прасторы культуры.

**— Як, на Ваш погляд, апошнім часам яны развіваюцца, традыцыйна дружалюбныя адносіны нашых народаў, калі мець на ўвазе менавіта дзейнасць пасольстваў?**

— Я сказаў бы — станоўча, актыўна, спадзяюся, і будуць развівацца з узаемным паскораным рухам. Прыклады таму ёсць. Вашы дзеткі лечацца і вучацца ў нашым цудоўным горадку Велінград. Нашы маладыя мастакі ўдзельнічаюць у вашых пленэрах, універсітэты абменьваюцца студэнтамі... Акрамя як па дзяржаўнай лініі, у нас ёсць гандлёвыя кантакты праз прыватныя фірмы, якія займаюцца бізнесам — беларусы ў Балгарыі і балгары ў Беларусі. З задавальненнем адзначу, што некаторыя з іх высакародна фундуюць культурныя мерапрыемствы.

**— Добра, тады такое пытанне. Ведаю, што ёсць кантакты паміж нашай і вашай тэлерадыёкампаніямі (хоць, заўважу, па нашым тэле-радыё амаль няма чаго глядзець-слухаць сапраўды балгарскага), паміж іншымі грамадскімі аб'яднаннямі і дзяржаўнымі ўстановамі. А на якім, па-Вашаму, узроўні сёння стасункі паміж Саюзамі пісьменнікаў Беларусі і Балгарыі?**

— На жаль, па-ранейшаму ў гэтым плане шмат ускладненняў. Але вось, напрыклад, ужо можна сказаць — у мінулым годзе ў нас была група беларускіх паэтаў: В. Зуёнак, А. Вярцінскі, А. Разанаў і перакладчыца М. Абрагімовіч. Сёлета вясной, напярэдадні дня Кірылы і Мяфодзія ў Менск павінна прыехаць група балгарскіх пісьменнікаў.

**— Візіты — гэта добра. А ці ёсць зрухі ў галіне мастацкага перакладу? Якія тут перспектывы?**

— О, у нашага Саюза перакладчыкаў — не без маёй падказкі, прызнаюся, — з'явілася цудоўная і маштабная ідэя, якую, дарэчы, падтрымала маральна і матэрыяльна беларускае пасольства ў Балгарыі. Вырашана адзін з нумароў нашага "тоўстага" часопіса "Панарама" цалкам прысвяціць Беларусі.

**— Як Вы бачыце сваю ролю ў ажыццяўленні гэтай грандыёзнай задумы?**

— Гэта мая самая блізкая асабістая задача — сабраць аб'ёмны матэрыял не толькі літаратурны, але і па жывапісе, музыцы, тэатры, этнаграфіі, публіцыстыцы, грамадскіх рухах. А ў дадатку можа быць і літаратура для дзяцей. У гэтым я разлічваю на беларускіх сяброў. Галоўнае — прыцягнуць да справы добрых беларускіх спецыялістаў і даць ім магчымасць выступіць у салідным балгарскім часопісе і расказаць усё пра Беларусь. Гэта ў нас ацэняць па вартасці.

**— Напярэдадні Новага года Вы прынялі ўдзел у пасяджэнні нашае Рады таварыства "Беларусь — Балгарыя" (я сказаў бы, актыўны ўдзел). Якія ўражанні засталіся ў Вас? Што наогул Вы можаце сказаць пра дзейнасць нашага Таварыства?**

— Якія ўражанні? Па-першае, ад выступаў вашых студэнтак, дзвюх Аксанаў, якія сваю справаздачу пра стажыроўку ў Сафійскім універсітэце давалі на балгарскай мове. Выдатна! Я ім паставіў бы вышэйшы бал, прыняты ў нас, — шасцёркі: выдатна!

Добрае ўражанне пакінулі вашы планы правядзення канкрэтных мерапрыемстваў: вечарын у сувязі з юбілеямі нашых пісьменнікаў, падрыхтоўкі да нацыянальнага свята Балгарыі ў сакавіку, Тыдня балгарскай літаратуры і г. д.

**— Хацелася б вярнуцца да Вашае практыкі мастацкага перакладу. Пераважна Вы перакладалі паэзію, але ж не толькі?..**

— Так, я шмат перакладаў паэзіі. Але пераклаў і аповесці Быкава "Знак бяды", "Кар'ер", "Аблава", п'есу Дударава "Вечар" і іншыя. Кожная рэч па-свойму цікавая. Але сапраўды больш за ўсё мяне вабіць паэзія, і надышоў час мне сабраць усё ў маім "Беларускім сшытку", куды ўвойдуць вершы ад Гусоўскага да сённяшніх маладых паэтаў.

**— Спадар Найдзен, у Вас вялікія напрацоўкі ў галіне мастацкага перакладу. Канешне, у Вас і сваё асаблівае стаўленне да перакладчыцкай дзейнасці наогул?**

— Пытанне вялікае. Мастацкаму перакладу я сапраўды надаю важнае значэнне, бо тут выходзіш на "міжнародныя пазіцыі", беручы адказнасць на сябе за другога паэта. Калі з душой, ты можаш як за руку прывесці на сваю зямлю чужога аўтара, а калі ты невук і бездар, можаш па шляху яго загубіць. Галоўнае ў перакладзе — захаваць ідэю твора, яго вобразную сістэму, танальнасць, каб і на тваёй мове ён гучаў з той жа сілай, што і ў арыгінале. Наколькі гэта магчыма, вядома. Гэтая мара пры кангеніяльным перакладзе рэдка дасягальная, але як да кожнай мары, да яе трэба імкнуцца настойліва і да канца. Бо пераклад мастацкай літаратуры — гэта і творчасць высокай пробы, і адначасова духоўны мост паміж народамі.

**Распытваў Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

(Клуб перакладчыкаў — "НС".)



*Зноў прыляцеў да сяброў — і таму настрой радасны. Найдзен Вылчаў і Ніл Гілевіч у аэрапорце Менск-2 (сярэдзіна 80-х гадоў).*

***Фота Уладзіміра КРУКА.***

## Батлеемскі агонь на Беларусі

Верагодна, шаноўныя чытачы ўжо знаёмыя з такой грамадскай арганізацыяй, як Аб'яднанне беларускіх скаўтаў па папярэдніх артыкулах у "Нашым слове", і таму не будзем займаць ваш час доўгім уступам. Сёння хацелася б расказаць, што ўжо зроблена і што плануецца зрабіць нашай арганізацыяй.

З часу свайго заснавання (21 сакавіка 1992 г.) АБС прымала ўдзел у многіх цікавых беларускіх мерапрыемствах: напрыклад, у 1993 годзе — у правядзенні Першага з'езда беларусаў свету, а ў 1994 — арганізацыя была ў складзе гаспадароў Першай сустрэчы беларускай моладзі свету. У тым жа годзе арганізавалі Першы нацыянальны скаўцкі джэмбар (злёт) на рацэ Іслач пад Ракавам.

Харугвы АБС рэгулярна праводзяць лагеры, у праграме якіх не апошняе месца займае фізічная падрыхтоўка і грамадска-карысная праца. Так, пад час весенніка, які праводзіўся ў гэтым годзе на базе Буйноўскай харугвы ў Мядзельскім раёне, было пасаджана каля 10 га хвойнага лесу. Прыклад добрага супрацоўніцтва паміж АБС і беларускім войскам быў прадэманстраваны мінулым летам, калі для правядзення летніка былі прадастаўлены радыёстанцыі, намёты, палявыя кухні і бранетранспарцёр.

Добрыя стасункі ў АБС са скаўтамі з іншых краін — рэалізаваная сумесная праграма Boy Scouts of America (1994-95), праведзены чатыры сустрэчы з французскімі скаўтамі Scouts de France (у тым ліку тры на Беларусі), устаноўлены добрыя кантакты з ZHP і ZHR (Польшча), з Пластом (Украіна).

Добрыя кантакты Канцылярыя АБС завязвае з былымі сябрамі Згуртавання Беларускіх Скаўтаў Чужыны (ЗБСЧ), якое было ўтворанае пасля Другой сусветнай вайны ў зонах, акупаваных амерыканскімі і англійскімі войскамі. Вядзецца ліставанне са скаўтамі ЗБСЧ, якія зараз жывуць у Аўстраліі, а не так даўно з ЗША, ад Вітаўта Кіпеля, прыйшла пасылка з часопісамі ЗБСЧ, якія друкаваліся ў 40-х — 50-х гг.

Зараз, на Каляды, АБС прымае ўдзел у акцыі "Батлеемскі агонь", якую ладзяць скаўты многіх еўрапейскіх краін. Яе сутнасць — па ланцужку, ад краіны да краіны перадаецца агонь, запалены ад лампады ў Батлеемскай батлейцы, і раздаецца па храмах. Гэты агонь на Беларусі і трапіў ужо ў многія касцёлы Гародні і Менска.

На наступны год мы плануем зноў правесці вясеннік па пасадцы лесу, а летам прыняць удзел у рэстаўрацыйных работах у Нясвіжы. Таксама запланавана і некалькі невялікіх летнікаў. Ёсць запрашэнне ў летнік у Германію, але зараз вельмі цяжкі фінансавы стан у многіх бацькоў, і, верагодна, ад запрашэння давядзецца адмовіцца. Таксама хацелася б завязаць кантакты са скаўтамі суседніх з намі балтыйскіх краін — Летувы, Латвіі, Эстоніі.

Вялікія надзеі мы звязваем з будучым удзелам у сумесным выпуску "Нашага слова". Мяркуем, што газета яшчэ больш згуртуе скаўтаў, і, спадзяёмся, нашыя шэрагі яшчэ больш папоўняцца.

Мы сабралі вялікую тэчку цікавых матэрыялаў і запэўніваем, што нашую старонку вы будзеце чытаць не сумуючы.

**В. СУГОЙДЗЬ, скаўт-канцлер АБС.**

***Фельетон***

# ВЯСЕЛЛЕ З НАСТУПСТВАМІ

Што ні кажыце, хутка ляціць час. Чытаеш гісторыю — проста не верыцца, што нейкіх 8 — 9 тысяч гадоў таму, дзе мы зараз жывём, была тундра. Хадзілі алені, а побач з імі нашы продкі. Падкрадаецца продак да аленя, махне дубінай — і ўся сям'я забяспечаная: мяса на абед, скура на адзенне, косткі на іголкі, жылы на ніткі. Махне раз-другі, зноў банкет на ўвесь свет. Праўда, хоць закускі ў дастатку, але піць няма чаго. Адна вада. Нованароджаных не "абмывалі", вяселляў не спраўлялі, дні нараджэння не адзначалі, у госці не хадзілі. Вось так і жылі. Сум адзін.

Вось нам жывецца. Павярнешся направа — крама, налева — кавярня, наперад — рэстаран... Каньяк увесь у зорках, на небе столькі не ўбачыш. Бутэлькі з караблікам на этыкетцы, кветкамі, буслямі і яшчэ невядома з чым. А ўнутры — вадкасці ўсіх колераў вясёлкі. Прыгажосць! Нарадзіўся — п'ем, на работу ўладкаваўся — з радасці, звольнілі — з гора, захварэеш — сябры прынясуць паўлітра, памрэш — вып'юць самі, пасумуюць, памянуць, а потым заспяваюць. Весела!

— Ах, Зузана, сэрца маё...

— Здаецца, бегемот прачнуўся.

— Не лезь, напіўся, сядзі!

— Ты што, мяне не паважаеш?

— Адчапіся!

Днём у вёсцы Лясковічы Бярозаўскага раёна пад час распіцця спіртных напояў грамадзянін Н. Андрэенка збіў жонку, пасля чаго тая сканала.

— Слухай, сябра, давай машыну ў гараж адганю.

— Н-навошта?

— Ты ж на нагах не трымаешся.

— З-затое за рулём сяджу.

— Давай, вылазь, я машыну адганю, а ты паспі.

— З-зачыні дзверцы, паеду, п-памірацць нам ранавата і б-баранку не кіну шафёр!..

Беспрацоўны жыхар Менска Шыбалка, кіруючы аўтамабілем "Масквіч" у стане алкагольнага ап'янення, сутыкнуўся з "Фольксвагенам", які кіраваў А. Карыцкі. У выніку Карыцкі загінуў, а пасажыр "Масквіча" атрымаў цялесныя пашкоджанні.

— Таварыш сяржант, вы не турбуйцесь, я, канешне, выпімшы. Але парадак. Дамоў і бай-бай. Я такая ціхая, прыйду сабе, запалю і ўсё.

У горадзе Глыбокае Віцебскай вобласці грамадзянка А. Ванькович, якая была ў нецвярозым стане, заснула з запаленай цыгарэтай, ад якой загарэлася канапа. У выніку атрыманых апёкаў Ванькович памерла на месцы.

— Эх, дзяўчынкі, што вы разумееце... Жанчына п'е — толькі маладзее. Не піць — радасці не ведаць. Вып'еш і ўсё забудзеш, на душы лёгка, зямлі пад нагамі не адчуваеш.

Пасярод дня ў парку Чалюскінцаў тры дзяўчыны збілі жыхарку г. Менска Н. Ваінскую, потым забралі 900000 рублёў, 50 долараў ЗША, залатыя вырабы, скураную куртку і зніклі.

— Ну, браткі, усё — канец!

— Кінь ламацца, частуюць — пі!

— Ды я з машынай.

— Ха, вы чулі, мужыкі, ён з машынай? Знайшоўся тут трактарны лётчык. Давай цягні.

Трактарыст саўгаса Рэчыцкага раёна ў п'яным стане перавозіў аднавяскоўца С. Жураўскага, які выпаў з кабіны трактара і загінуў.

— Заходзьце, госці дарагія, заходзьце! Мы так рады, так рады... Сядайце, не саромцеся. Вось селядзец, а там салата. Можа, ікры хочаце, агуркі, рыбка заліўная, шынка, паштэт... Не, не, спачатку гарэлачкі, потым "Кальвадос". Ах, лепей "Віскі"? Калі ласка. З гарачым сухое, з тортам каньячок, на дарожку асаблівы армянскі. Цуд! Глядзіце, наклейка ўся ў медалях. Ну, яшчэ келішак.

Пасля супольнага распіцця спіртных напояў адбылася сварка паміж жыхарамі вёскі Радкоў Петрыкаўскага раёна М. Пырко і В. Хвясько. Апошні нанёс удар Пырко і той сканаў на месцы.

— З'явіўся ўрэшце і зноў набраўся!

— Добра, не зудзі!

— Табе ўсё добра! Я цэлы дзень чакаю, п'яніца няшчасны.

— Не зудзі, сказаў!

— Божа мой, за каго я замуж пайшла, з кім звязалася. Ведала б...

— Што ведала б?

Не, мы не за тундру, аленяў і ваду (хаця ў Беларусі ад вады нікто не паміраў), мы за тое, каб і пецъ, і весяліцца. Але калі ўжо вырашылі выпіць, тады з адной умовай: трэба ведаць дзе, з кім, калі і, галоўнае, колькі. Інакш — чытайце спачатку.

**Антон ВЫРВІЧ, прэс-цэнтр МУС.**

# Равенскіх слаўны род

Ішоў устаноўчы сход сябрыны "Беларусь — Бельгія", калі дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны Адам Мальдзіс спытаў: "А ці ёсць тут Вольга Мікалаеўна Равенская? Мы яе запрашалі." З крэсла паднялася прыгожая, абаяльная жанчына сярэдняга веку і спакойна сказала: "Я Равенская". І многім, хто быў тады побач з ёю, пацяплела на душы ад думкі, што дачка дзеяча беларускай культуры Міколы Равенскага, прыпісанага калісь да "нацдэмаў", ацалела ў той страшны час, калі паслугачы рэжыму імя бацькі затоптвалі ў гразь, сціралі са старонак гісторыі — з паталагічнай нянавісцю да ўсяго нацыянальнага на Беларусі, — а яе, яго крывіначку, абразліва звалі "дачкой ворага народа".





5 снежня дзевяноста шостага года споўнілася сто дзесяць гадоў з дня нараджэння Міколы Равенскага, да якога ў найбольшай ступені стасуецца эпітэт "выдатны": выдатны дырыжор, выдатны хормайстар, выдатны кампазітар, выдатны чалавек. Ён заўсёды жыў на Бацькаўшчыне ў сваіх песнях — на словы Канстанцыі Буйлы ("Люблю наш край, старонку гэту"), Максіма Багдановіча ("Слуцкія ткачыхі", "Пагоня", "Завіруха", "Не кувай ты, шэрая зязюля"), Цішкі Гартнага ("Ах ты, Нёман-рака"), Янкі Купалы ("У вырай"), Якуба Коласа ("Вясна", "Зіма", "Край наш бедны", "Ой ты, вецер неспакойны", "Мой родны кут"), Наталлі Арсенневай ("Магутны Божа"), Уладзіміра Дубоўкі ("О, Беларусь, мая шыпшына", "Такая ноч"), у шматлікіх апрацоўках народных песняў, што выйшлі у 1922 годзе асобным выданнем і выдаваліся пазней. У сваёй творчасці Равенскі аддаваў перавагу такім музычным творам, як фугі, прэлюдыі, мазуркі, накцюрны. Яго знешні воблік у апісанні сяброў паўстае такі: невысокі, шчуплы, рухавы, ветлівы, сціплы, з купінаю густых, зачэсаных назад валасоў. Насіў марынарку, вышываную кашулю і самаробны тканы паясок.

Першае слова ўдзячнасці мы павінны адрасаваць тым руплііўцам беларушчыны, якія зберaглі для нашчадкаў памяць пра майстра, расказалі аб ім у сваіх успамінах і паклапаціліся асвяціць яго дзейнасць у энцыклапедыях. У гэтым плане заслугоўваюць увагі апублікаваныя за мяжой успаміны Уладзіміра Неманцэвіча "На службе мастацтва і ідэі", прысвечаныя апошняму перыяду ў жыцці Равенскага (часопіс "Наперад", пяцідзесятыя гады), і нарыс Антона Адамовіча "Лірнік краіны светлай" — ахоплівае савецкі перыяд у жыцці кампазітара (часопіс "Беларуская моладзь", шасцідзесятыя гады). У Беларусь імя Равенскага вярнулася ў час перабудовы і абвяшчэння незалежнасці.

Творчы шлях Міколы Равенскага пачаўся да рэвалюцыі: спяваў у Менскім архірэйскім хоры, працаваў хормайстрам у Наваградку. У 1920 — 22 гг. — дырыжор хору пры Беларускім работніцкім клубе, які знаходзіўся пад патранатам эсэраў. Клубам гэтым загадваў родны брат Міколы Антон Равенскі, па прафесіі настаўнік. Кароткі час працаваў хормайстрам Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра (замест арыштаванага Тэраўскага).

З цікавасцю чытаюцца тыя старонкі ўспамінаў Адамовіча, дзе ён апісвае сваю сустрэчу з Равенскім летам 1929 г. у Карзюках — вёсцы, дзе настаўнічаў яго брат Антон — колішні эсэр, колішні загадчык Беларускага рабочага клуба, а пазней бедны настаўнік і гарапашнік-селянін, які жыў у цеснай, цёмнай, гнілой хаце з земляным токам замест падлогі. Равенскі ў той час працаваў над музыкай да оперы "Браніслава" на лібрэта Дубоўкі, якая, аднак, у абставінах пагромаў беларускіх "нацдэмаў" не толькі не магла з'явіцца на сцэне, але і захавацца тэкстуальна. Мне невядома, напрыклад, якім цудам ацалелі ноты арыі Браніславы, арыгінал якіх захоўваецца цяпер у дачкі кампазітара. Сапраўднай сенсацыяй лета 1929 г. стаў "Ліпнёвы гімн" Равенскага на словы Дубоўкі. Гімн быў выкананы ўсяго адзін раз Дзяржаўным менскім хорам, але не вытрымаў ідэалагічнай праверкі і быў адразу ж забаронены. Ужо жывучы ў Бельгіі, напрыканцы свайго жыцця, Равенскі прыгадваў: "Ліпнёвы гімн" быў пабудаваны так, што трымаў слухачоў у ўсцяжным, нарастаючым напружанні. Праз ягоную ўрачыстасць прабіваўся своеасаблівы трагізм. Эфект быў небывалым: гімн ужо скончыўся, а заля як бы замерла ў хвіліне жалобнага маўчання. Дубоўка ж сядзеў і з задавальненнем паціраў рукі. Праўда, пасля гэтага выступу гімн адразу ж забаранілі, а "Браніславу" нам так і не прыйшлося закончыць: Дубоўку арыштавалі, а ў мяне сканфіскавалі ўсе рукапісы".

Самымі цяжкімі ў жыцці Равенскага выдаліся трыццатыя гады, калі ён спаўна паспытаў долі "нацдэма"... У вайну жыў у Менску і займаўся творчасцю, а напачатку сорак трэцяга года выехаў у Чэрвень, дзе працаваў рэгентам царкоўнага хору. З 1944 г. у эміграцыі. У лагерах для перамешчаных асоб Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, Остэргофене, Розенгайме пражыў пяць гадоў. Працаваў хормайстрам, настаўнікам спеваў у Беларускай гімназіі імя Купалы, кіраўніком Беларускага жаночага ансамбля, канцэрты якога карысталіся вялікім поспехам. Вянцом творчасці таго часу стала яго музыка на словы Арсенневай "Магутны Божа". У 1950 г. выехаў у Бельгію па запрашэнні Беларускай студэнцкай сябрыны і неўзабаве пры Лювэнскім універсітэце стварыў Беларускі ансамбль з трыццаці чалавек. "Паралельна з хорам, — успамінае У. Craнаміч, — вывучаліся і танцы. І ўжо праз тры месяцы ансамбль даваў свой першы канцэрт ва універсітэце. Пасля заканчэння праграмы рэктар прыйшоў асабіста прывітаць кампазітара, кажучы, што ён ужо больш за дваццаць гадоў не чуў падобнага хору".

Лювэнскі перыяд — вельмі кароткі ў часе (усяго тры гады) — быў спрыяльным для кампазітара. Матэрыяльная забяспечанасць давала нейкую магчымасць — у меру душэўных і фізічных сіл — тварыць. Шкада, што не давялося даўжэй пажыць. На адной з апошніх старонак запісной кніжачкі ён вывеў дрыжачай рукой контуры межаў Беларусі, а пасярэдзіне накрэсліў два словы: "Альфа" і "Амега".

Самае балючае пытанне, якое дагэтуль не вырашана, — гэта пытанне зберажэння і захавання спадчыны Міколы Равенскага. Дзе яна? Дзе яго Лювэнскі архіў? Дзе тая ўнікальная скрыпка, якую так цаніў? Дзе, нарэшце, тая кніжыца з апошнімі занатоўкамі? Кажуць, яго творы расцягнулі па ўсіх кантынентах. Ці праўда ўсё гэта?

Спадзяюся, што гутарка з дачкой класіка беларускай музыкі Вольгай Мікалаеўнай Равенскай-Аляксеенка зацікавіць чытачоў.

**— Вольга Мікалаеўна, дазвольце пагаварыць з Вамі пра лёс Міколы Равенскага і пра Ваш асабісты. Але напачатку я прасіла б Вас расказаць, як Вы раслі без бацькі?**

— Бязбацькаўшчына — жахлівая рэч. Сёння я не магу ўявіць, як выжыла ў тых умовах. Гэта быў для мяне страшэнны, жудасны час. Пачну з таго, што я страціла бацьку ў чатырохгадовым узросце. Маці, Яніна Станіславаўна, другі раз выйшла замуж і ўсёроўна як у яму ўпала: наша жыццё яшчэ больш пагоршылася. Ад нешчаслівага шлюбу, тым не меней, нараджаліся дзеці. Некаторыя з іх паміралі. Сям'я цярпела жахлівую галечу, галадала. Памятаю сябе ў дзяцінстве: да позняй восені хадзіла босай, не было ў што і апрануцца. Маці працавала на самым цяжкім вытворчым працэсе ў гарбарні, а гэта вечны ацэтон, бруд, знясільваючая нежаночая праца. Яна была заўсёды змардаванай, дамоў прыходзіла — адразу клалася. Увесь цяжар клопатаў аб малодшых братах і сёстрах клаўся на мяне. Плюс да ўсяго ва мне бачылі дачку здрадніка, мой лёс нікога не цікавіў.

**— Ваша маці не мела адукацыі?**

— Маці вучылася ў кансерваторыі, мела цудоўны голас, яе чакала бліскучая будучыня. Яна была спявачкай, аднак не магла працаваць прафесійна.

**— А чаму?**

— Бо мужа прызналі "ворагам народа", і, акрамя таго, у вайну яны абое знаходзіліся пад акупацыяй. Бацькі не былі калабарантамі, яны — без віны вінаватыя. Пасля вайны перад мамай закрыліся ўсе дзверы. У пошуках працы яна звярталася і ў оперны тэатр, і ў радыёкамітэт, і ў многія іншыя месцы, дзе патрэбны былі спявачкі, але ёй усюды адмаўлялі. Спярша мама не разумела, у чым справа, а калі зразумела, то ўбачыла, што, акрамя гарбарні, другога месца ёй няма. На заводзе яна пазнаёмілася з такім самым рабочым, як сама, і звязала з ім неабачна лёс.

**— А якім чалавекам быў айчым?**

— Ён быў жорсткім і дэспатычным чалавекам. Мяне збіваў да паўсмерці. Збіваў і ўласных дзяцей. Мог прыйсці ўначы і выгнаць мяне з дому на мароз у адной кашулі. Маму таксама выганяў. У нашу сям'ю ніхто не ўмешваўся, ніхто не бараніў нас ад звера.

**— Як Вы вучыліся ў такіх умовах?**

— Мне вельмі хацелася вучыцца, але не было як: айчым гадамі забараняў наведваць школу. Таму сярэднюю адукацыю я атрымала позна — ужо ў вячэрняй школе.

**— У Вас музычная адукацыя...**

— У мяне быў добры голас, і я марыла стаць спявачкай, як і мама. Таму пайшла ў музычнае вучылішча. Вучылася ў цудоўнага педагога Жытнікавай, якую і сёння прыгадваю з удзячнасцю

**— У кансерваторыю не спрабавалі паступаць?**

— Спрабавала. Не прынялі. Вядома, мне не сказалі, што не бяром вас, бо вы дачка Равенскага, але гэта можна было зразумець па той рэакцыі, якую выклікала ў дзяржаўных чыноўнікаў маё прозвішча. З гэтага часу ў мяне развіўся комплекс непаўнацэннасці — на тым перакананні, што мая біяграфія — неадольная перашкода ў жыцці. Прайшло шмат гадоў, пакуль я набралася смеласці паступаць зноў у ВНУ, на гэты раз у Інстытут культуры. Скончыла дырыжорска-харавое аддзяленне ў 1982 годзе. Гэтым самым я нешта сама сабе даказала.

**— Ці можна лічыць, што Ваш творчы лёс здзейсніўся?**

— Не зусім так, як таго хацелася б, але ўсё ж мая мара споўнілася: я стала спявачкай. Спярша працавала ў оперным тэатры, потым перайшла ў Дзяржаўны хор радыё і тэлебачання, якім кіруе Віктар Роўда і ў складзе якога заставалася дваццаць гадоў

**— Калі браць цяперашні перыяд жыцця, чым ён для Вас адметны?**

— Музыку я не пакідаю — гэта мая прафесія і маё жыццё. Не спяваю, але працую педагогам, вучу музычнай граматe дзяцей, якіх вельмі люблю. Наведваю Евангельскую царкву, дзе з'яўляюся памочнікам пастара. Многа дапамагаю людзям. Для сябе асабіста зрабіла такую выснову: прыемней даваць, чым браць. Дзеля гэтага варта жыць.

**— Вольга Мікалаеўна, скажыце, а ці здзейсніліся Вы як беларуска, як дачка свайго народа?**

— Я свядомая беларуска, і мае пачуцці глыбока нацыянальныя. І я ўдзячна сваёй маме, што яна паклапацілася аддаць мяне вучыцца ў 23-ю гарадскую школу, дзе ўсе прадметы выкладаліся па-беларуску. Вядома ж, любоў да роднай мовы ў мяне яшчэ і ад бацькі, які размаўляў толькі на беларускай мове, хоць добра ведаў і расійскую — яшчэ з вучобы ў Маскве і Пецярбургу. Я лічу так: мы павінны ведаць і берагчы сваю мову, сваю культуру.

**— Што Вам вядома пра свайго бацьку?**

— Яго вобраз у мяне склаўся са слоў маці. Быў ён чалавекам надзвычай добрым, надзвычай прыстойным і надзвычай таленавітым. З ім расправіліся яшчэ да вайны: выключылі з Саюза кампазітараў, знялі з работы ў кансерваторыі і не дазвалялі працаваць у іншых месцах, тым больш творча. За ім сачылі, рабілі вобыскі і адбіралі рукапісы. Так што ён быў асуджаны на пагібель яшчэ да вайны.

**— У чым яго абвінавачвалі?**

— У прыналежнасці да так званых беларускіх нацдэмаў, за сувязь з Дубоўкам, Чорным, іншымі рэпрэсаванымі асобамі і, вядома ж, за сувязь з родным братам Антонам, таксама арыштаваным у 1938 годзе і расстраляным, як нам пазней стала вядома, у Курапатах. Антон настаўнічаў у Карзюках, непадалёку ад Менска. У яго збіралася сталічная інтэлігенцыя — пісьменнікі, кампазітары. Ён знік пасля таго, як сказаў у настаўніцкай, што Тухачэўскі і Якір — не ворагі народа. Між іншым, мой бацька сябраваў з Тухачэўскім, калі вучыўся ў Маскве ў дваццатыя гады. Мабыць, майму дзядзьку прыпісалі і нацдэмаўшчыну.

**— У Равенскага, акрамя Вас, былі яшчэ дзеці?**

— Было яшчэ дзве дачкі: старэйшая, Алена, ад першага шлюбу, загінула ў 1942 годзе, а сярэдняя, Люда, памерла ад менінгіту ў 1944 годзе.

**— Як загінула Алена?**

— Яна была партызанкай, жонкай Ісая Казінца, славутага менскага падпольшчыка. Хтосьці іх выдаў фашыстам. Яе расстралялі, а яго павесілі ў скверы пры Беларускім тэатры. Дарэчы, сястра выратавала вельмі многа яўрэяў. Яна была смелай і ахвярнай, толькі пажыла нядоўга.

**— Хто Вам дасылаў звесткі пра Мікалая Якаўлевіча?**

— Адна сваячка з Лондана, цётка Таня, па прафесіі ўрач-анколаг. Яна яшчэ бацьку кансультавала і трымала з ім сувязь ажно да яго смерці ў пяцьдзесят трэцім годзе. Праз нейкі час яна мяне знайшла, расказала ўсё, што ведала сама, перaслала па пошце татавы пісьмы і некалькі арыгіналаў музычных твораў. Ад яе мне стала вядома, што ў Бельгіі бацька напісаў музыку для многіх песняў, у тым ліку і для народных. Ад Зоры Кіпель з Нью-Йорка я даведалася, што ў іх там захоўваецца зборнік яго нявыдадзеных песняў.

**— Калі Вы ездзілі ў Бельгію на магілу бацькі, як да Вас аднесліся тамтэйшыя беларусы?**

— Яны мяне вельмі гасцінна прымалі, як, дарэчы, і бельгійцы, якія шануюць памяць Равенскага.

**— Вашы пажаданні землякам.**

— Я хачу выказаць як дачка беларускага кампазітара ўдзячнасць тым людзям, на якіх сёння трымаецца беларуская культура і мова. З гэтымі людзьмі я часта сустракаюся, гляджу ім у вочы так, як цяпер у вашы. Тое, што ёсць людзі, для якіх неабыякавыя нацыянальныя каштоўнасці і будучыня народа, мяне радуе і напаўняе сэрца надзеяй.

**Распытвала І. КРЭНЬ.**

**На здымку: Мікола Равенскі, Вольга Равенская-Аляксеенка.**

# Выдатны вучоны, годны беларус

24 снежня 1996 года пайшоў з жыцця доктар філалагічных навук, заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Леанід Іванавіч Бурак. Сумная падзея закранула сэрцы ўсіх, хто разумеў значэнне творчай дзейнасці гэтага чалавека ў галіне беларускага мовазнаўства і нацыянальнай культуры.

Леанід Іванавіч Бурак нарадзіўся 23 сакавіка 1930 года ў вёсцы Кульшына Вілейскага раёна Менскай вобласці. У 1953 годзе скончыў філалагічны факультэт БДУ, затым працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР, а з 1966 года — ва універсітэце. У сваіх манаграфіях і артыкулах Леанід Бурак даследаваў сінтаксіс беларускай мовы, рыхтаваў па гэтым раздзеле мовы дапаможнікі і даведнікі, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю.

Леанід Бурак — аўтар шматлікіх навуковых прац, сярод якіх вылучаецца манаграфія "Далучэнне ў сучаснай беларускай мове" (1975), а з апошніх даследаванняў — "Звышфразавае адзінства і яго інтанацыйныя асаблівасці" — па тэме, адносна новай у мовазнаўстве. Ён таксама адзін з аўтараў "Граматыкі беларускай мовы" (т. 1., 1962; т. 2., 1966), для якой напісаў шэраг раздзелаў, прысвечаных словаўтварэнню назоўнікаў, розным канструкцыям простых і складаных сказаў.

Пра грамадскую дзейнасць Леаніда Іванавіча могуць засведчыць наступныя факты: на працягу многіх гадоў ён з'яўляўся членам спецыялізаванага савета пры філфаку БДУ па абароне доктарскіх дысертацый, членам савета філалагічнага факультэта, навуковым кансультантам у замежных стажораў Польшчы і Германіі, загадчыкам кафедры сучаснай беларускай мовы. Паралельна з працай на філфаку ён неаднаразова выязджаў у іншыя універсітэты і педінстытуты Рэспублікі Беларусь, а таксама ў Варшаўскі універсітэт (Польшча), дзе чытаў лекцыі па актуальных праблемах сучаснага беларускага мовазнаўства. Сведчаннем высокай патрабавальнасці да сябе і студэнцкай моладзі з'яўляецца той сад, які ён пакінуў, — выхаваны ім шэраг маладых спецыялістаў і навукоўцаў.

Згадваю групавы здымак нашага філфака, на якім Леанід Бурак стаіць збоку ад усіх, адзін. Гэта мне нагадвае яго жыццёвую пазіцыю — незалежную, поўную годнасці пры ўсёй сялянскай сціпласці, тое, што ён трымаўся на нейкай дыстанцыі ў сваіх кантактах з людзьмі. Нават да мяне, сваёй аднакурсніцы, ён звяртаўся на "вы", што, дарэчы, не перашкаджала яму быць чулым і спагадлівым чалавекам. Як сказаў яго паплечнік па працы вучоны Уладзімір Лазоўскі: "Леанід Іванавіч ведаў толькі дзве рэчы: сваю работу і свой дом".

**І. К.**

## Спорт

### Баскетбол

Мужчынская зборная Беларусі ў адборачным матчы першынства Еўропы перамагла ў Славакіі зборную гэтай краіны 86:81 і цяпер займае чацвёртае месца ў сваёй падгрупе. Для выхаду ў фінальны турнір нашай зборнай трэба перамагчы каманды Ізраіля (на сваёй пляцоўцы) і Грузіі (у гасцях).

### Валейбол

Пятую паразу запар у рамках адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы пацярпела мужчынская зборная нашай краіны. На гэты раз у Гародні яны прайгралі сапернікам з Турцыі 0:3 (10:15, 6:15, 12:15) і страцілі амаль усе шанцы трапіць у фінал.

### Новы спорткомплекс

20 снежня ў Менску нанова адкрыты спорткомплекс "Працоўныя рэзервы", які амаль дашчэнту згарэў у выніку пажару больш 10 гадоў таму. Новы комплекс уключае ў сябе лёгкаатлетычны манеж, некалькі спортзалаў, стадыён, басейн, саўну і гатэль.

### Футбол

У Швейцарыі ў штаб-кватэры Еўрапейскай футбольнай асацыяцыі (VEFA) адбылася жэраб'ёўка чэмпіянатаў Еўропы 1997 г. для малодшых і старэйшых юнакоў. У малодшых сапернікамі зборнай Беларусі на першым этапе будуць зборныя Эстоніі і Нарвегіі, а ў старэйшых — Швецыі, Латвіі і Турцыі.

У чэмпіянаце Беларусі па футболе 1997 г. у I лізе возьме ўдзел 15 каманд: "МПКЦ" (Мазыр), "Дынама" (Менск), "Белшына" (Бабруйск), "Дынама-93" (Менск), "Лакаматыў-96" (Віцебск), "Атака-Аўра" (Менск), "Нафтан-Дзевон" (Наваполацк), "Маладзечна", "Дняпро" (Магілёў), "Дынама" (Брэсце), "Шахцёр" (Салігорск), "Тарпеда" (Менск), "Тарпеда-Кадзіно" (Магілёў), а таксама дзве мацнейшыя каманды II лігі "Трансмаш" (Магілёў) і "Камунальнік" (Слонім), якія зменяць аўтсайдэраў "Абутнік" (Ліда) і "Ведрыч" (Рэчыца).

**А. Н.**

### Футбол: у свеце

Варатар англійскага клуба "Лейтан" 47-гадовы Пітэр Шылтан нядаўна згуляў 1000-ы матч у чэмпіянатах краіны. Нягледзячы на немалады для футбаліста ўзрост, Шылтан знаходзіцца ў добрай форме і не збіраецца сканчваць кар'еру.

25-гадовы харкаўчанін Мікалай Куцэнка 7 гадзін 19 хвілін і 26 секунд галавой жангліраваў мячом. Такім чынам Мікалай усталяваў новы сусветны рэкорд, які будзе ўнесены ў "Кнігу Гінэса". Папярэдні рэкорд належаў паўднёвакарэйцу Хур Нам Чжыну, які жангліраваў мячом 7 гадзін 17 хвілін 48 секунд.

Па выніках апытання чытачоў часопіса "Ріка поžna" лепшым футбалістам Польшчы гэтага года прызнаны 32-гадовы Пётр Новак з нямецкага клуба "Мюнхен-1860".

Адкрыццём года названы 22-гадовы Марэк Цытко з "Відзева", а трэнерам года — 48-гадовы Францішак Смуда з гэтага ж клуба.

# "Як журналіст журналістам"

## (Апавядае Янка Брыль)

28 лістапада ў Рэспубліканскім палацы культуры ветэранаў г. Менска адбылася сустрэча народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля з журналістамі-ветэранамі. Ва ўтульнай гасцёўні сабралася некалькі дзесяткаў чалавек. Івана Антонавіча запрасілі на сярэдзіну пакоя, да століка, арганізатары сустрэчы Святлана Кліменценка і Віктар Барушка прымасціліся побач, і гутарка пачалася. Іван Антонавіч не стаў заглыбляцца ў праблемы журналістыкі, тым больш у яе маральны аспект перыяду культу асобы, а проста расказаў прысутным, у якіх выданнях працаваў сам і з кім з журналістаў сябраваў у розны час. Упершыню паспытаў ён журналісцкага "хлеба" у партызанах, калі ў Налібоцкай пушчы яго, пачынаючага пісьменніка, паставілі рэдагаваць падпольную газету "Сцяг свабоды" і сатырычны лісток "Партызанскае жыгала". Першым яго настаўнікам у гэтай справе быў Грыша Смоляр — прызнаны яўрэйскі публіцыст і бывалы чалавек. У партызанах Іван Антонавіч пасябраваў са славутым рэвалюцыянерам з Заходняй Беларусі Паўлам Жалезняковічам, які з пажыццёвага зняволення адбыў у польскай турме трынаццаць гадоў. Пазней Янка Брыль напіша пра гэтага чалавека цудоўны нарыс.

Пасля выхаду з лесу — в. а. рэдактара раённай газеты ў Міры, а з выклікам у Менск на працу — супрацоўнік рэдакцыі газеты-плаката "Раздавим фашистскую гадину", ператворанаю затым у сатырычна-гумарыстычны часопіс "Вожык", рэдактарам якога стаў Кандрат Крапіва, а "таварышамі па пяру" — Максім Танк, Максім Лужанін, пазней Пімен Панчанка ды іншыя. У Доме друку іх рэдакцыя месцілася ў адным пакойчыку, але цесна не было: усе разам супрацоўнікі збіраліся не часта, адно як трэба было "вырагатаць" чарговы нумар. З вялікай цеплынёй і ўдзячнасцю Іван Антонавіч гаварыў пра Крапіву: у працы быў патрабавальнік да сябе, стараннасць, акуратны, а з падначаленымі — карэктны і далікатны. Ніколі не пасварыўся на таго, хто не з'яўляўся на работу або спазняўся. У цяжкі момант падтрымліваў сваім аўтарытэтам. Так ён стаў рэдактарам і аўтарам прадмовы да першай кнігі Я. Брыля "Апавяданні". Прыгадаў Іван Антонавіч і апошнюю, развітальную па сутнасці, сустрэчу ў бальнічнай палаце: Кандрат Кандратавіч быў бездапаможны, патрабаваў апекі, аднак са светлай галавой і вялікай зацікаўленасцю размаўляў пра пісьменніцкія справы і творчыя здабыткі беларускай літаратуры.

У 1949 годзе на змену Івану Антонавічу ў "Вожык" прыйшоў Андрэй Макаёнак. Па пэўным часе, у 1953 годзе, Янка Брыль прыняў удзел у арганізацыі часопіса "Маладосць", у выданні якога быў вельмі зацікаўлены Пётр Машэраў, — ён нават выдзеліў у памяшканні ЦК камсамола пад рэдакцыю сем пакояў і фоталабараторыю. Працуючы ў "Маладосці" намеснікам галоўнага рэдактара, Іван Антонавіч захапіўся фатаграфіяй і пасябраваў з фотакарэспандэнтам Аляксандрам Дзітлавым. Захапленне было настолькі моцным, што ён пачаў публікаваць свае здымкі ў друку. З Дзітлавым жа яны зрабілі фотаальбом пад назвай "Там, дзе сінее Нарач" — была ж тады ахвота падымацца на золаку, каб паздымаць прыроду на ўзыходзе сонца. Два гады працаваў у часопісе "Полымя" намеснікам галоўнага рэдактара. Быў, як гаворыцца, "рабочым канём": у год выходзіла дванаццаць тоўстых тамоў часопіса, а колькі яшчэ трэба было рукапісаў адбракаваць. Да таго ж, кожны з шаноўных аўтараў хацеў апублікаваць свой раман не інакш, як цалкам. Падаў заяву на звальненне без шкадавання, тым больш, што Іван Мележ апублікаваў у той час свой раман "Людзі на балоце" і абудзіў у яго таварыскую зайздрасць.

"Праца журналісцкая, — сказаў Іван Антонавіч у заключэнне, — працягваецца ў кожнага літаратара, толькі ў нас яна завецца, — ці будзе гэта водгук на злобу дня, ці дарожны нарыс, — мастацкай публіцыстыкай. І я гэтым заўсёды даражыў і займаўся, а ў некаторай меры займаюся і цяпер. Маё сённяшняе выступленне — гэта прызнанне ў любові да той справы, якая нас, журналістаў, аб'ядноўвае".

*Адказваючы на пытанні, Іван Антонавіч пераказаў некалькі эпізодаў з павоеннага жыцця пісьменнікаў і журналістаў, якія нагадваюць гістарычныя анекдоты.*

Пра Аляксандра Твардоўскага жыве такая легенда. У 1944 годзе ён — прыгажун, славуты паэт і афіцэр у чыне падпалкоўніка — ехаў на фронт. У Менску прыпыніўся ў свайго сябра Аркадзя Куляшова, а праз дзень-два завітаў у рэдакцыю "Советской Белоруссии" з намерам надрукаваць у газеце ўрывак са сваёй паэмы "Дом у дороги". Рэдактар прaслухаў урывак, затым загадаў бухгалтару выдаць аўтару ганарар, а тады папрасіў:

— А покажите, пожалуйста, на всякий случай, свои документы.

Ганарысты шляхціч беларускага паходжання вокамгненна вылажыў на стол атрыманыя грошы.

— Попрошу расписочку.

Рэдактар потым апраўдваўся:

— Кто с вами разберется, если столько вас тут ходит.

Рэдактара "Советской Белоруссии" Міхайла Хрысціча знялі з работы. Апынуўшыся на новай пасадзе рэдактара раённай газеты ў Ровенскай вобласці, ён апублікаваў верш: "Прымай, Украіна, свого Кобзаря"!

У 1956 годзе Пімен Панчанка надрукаваў твор "Прыстасаванцы", які выклікаў абурэнне ў рэдактара "Калгаснай праўды". На пасяджэнні ў ЦК КПБ ён сказаў: "Пора сажать", на што рэдактар "Советской Белоруссии" Алег Здаравенін, рускі па нацыянальнасці, заўважыў: "Товарищ Феськo, мы с вами уйдём, и никто нас не вспомнит, а Панченко останется. Надо думать об этом".

Неяк сакратар ЦК па ідэалогіі Цімох Гарбуноў, выступаючы ў Саюзе пісьменнікаў пасля XX з'езда КПСС, журыўся, што яму няёмка было атрымліваць дадатковыя "канверты". Зваду нехта малады крыкнуў: "Калі няёмка, дык аддайце мне"!

Гарбуноў пакрыткаваў Аркадзя Куляшова, які на той час быў, як кажуць, "на ўзлёце". Той не сцярпеў:

— Цімафей Сазонавіч, вашы памочнікі пра мяне вам няправільна напісалі!

— Нет, я сам написал!

— Тым горш!

Цімох Гарбуноў выбіраўся на пост сакратара ЦК КПБ двойчы. У перапынку паміж сваім сакратарствам ён рыхтаваў для часопіса "Полымя" вялікі артыкул пра ўз'яднанне беларускага народа ў адзінай савецкай сацыялістычнай дзяржаве і ездзіў у Дом друку трамваем. Максім Танк у рэдакцыі неяк адкрыта сказаў: "Напісана на ўзроўні раённай газеты".

Гэта яму прыпомнілася, калі аўтар зноў заняў кіруючае крэсла.

**Ірына КРЭНЬ.**

## І смех і грэх




### Пачутае "У Лявона"

#### І не толькі

Маці сыну, які, віншуючы, абяцае ў новым годзе не лгаць:

— Добра, добра, але паабяцай мне, што ў неадпаведных момантах ты не будзеш гаварыць і праўду.

#### У Піліпаўку

Артыст мастацкай самадзейнасці шынка чытае Купалаў "Курган".

— ...У Піліпаўку воўк нема вые...

Госць, абудзіўшыся:

— Так! Горыч нашага жыцця і чалавека прывучае да выцця!

#### Спяшайся!

Пасля злоснай спрэчкі жонка кажа мужу:

— Праўду казала мама: мне даўно трэба было цябе кінуць.

На гэта муж:

— Спяшайся, цягнік да тваёй маці адыходзіць праз гадзіну!

#### Шантаж

Да бывальца шынка падыходзіць знаёмы:

— Калі ты мне зараз жа не аддасі долары, якія мне вінен, дык я скажу ўсім, што ты мне ўжо аддаў..

### Напамін самому сабе

*Расул Гамзатаў*

*Піць можна ўсім,*
*Ды ведаць варта толькі,*
*Калі і дзе,*
*За што і колькі.*

#### Надакучыў

Дэсантніка камандзір падштурхоўвае да люка самалёта і загадвае скакаць. Ён крычыць:

— Перавядзіце мяне нарэшце ў артылерысты. Дванаццаць разоў скакаў, дванаццаць разоў парашут не раскрываўся. Усё, не хачу болей!

Усё-такі выпіхнулі яго з самалёта.

А ў саўгасе ў гэты час ідзе сход з удзелам раённага вертыкальшчыка. Старшыня гаворыць:

— Вось таварыш з цэнтра прыехаў разабрацца, чаму мы гадавы план не выканалі. А як? Механізатары яшчэ ад свята кастрычніцкай рэвалюцыі пахмяляюцца, даяркі ў дэкрэце, паліва няма, ільготных крэдытаў больш не даюць...

Страшэнны грукат наверсе, на даху.

— І гэты дэсантнік, — заканчвае старшыня. — Ну так ужо надакучыў!

#### Не бачыць, але чуе

Пляменніца мільянера прыходзіць у аддзел па выдачы віз і просіць замежны пашпарт, каб выехаць у Амерыку — дзядзька аслеп і яму патрабуецца дапамога.

— А чаму б вам не запрасіць дзядзю сюды? — кажуць пляменніцы. — Ён бы прыехаў са сваімі мільёнамі, а вы б тут яго даглядалі.

— Вы, пэўна, мяне не зразумелі, — кажа жанчына. — Мой дзядзька аслеп, але ж не з'ехаў з глузду.

#### Думай, што кажаш

У аўтамабіля раптам сапсавалася сістэма кіравання і ён ляціць у кювет. Кіроўца пачаў маліцца:

— Божухна, калі застануся жывы, калі не разаб'юся, тады адразу кіну піць, курыць, перастану здраджваць жонцы і дам грошай хвораму сябру...

Тут машына ўразаецца ў стог сена. Кіроўца выбіраецца з яе і выцірае хусцінкай спацелы твар:

— Уф-ф, здаецца, жывы... Так мала ляцеў, а столькі лухты паспеў нагаварыць.

#### Усё к лепшаму

Урач хвораму:

— Магу вас абрадаваць, вы яшчэ на адзін крок далей ад атэрасклерозу: толькі што паведамілі пра новае павышэнне цэнаў на мяса, масла і смятану.

**Учуў Л. М.**

### Было, было...

#### Напалавіну

Адзін парыжскі мешчанін, улюбёны ў свайго імператара, дарваўся ўсё-такі аднойчы да Напалеона і сказаў яму:

— Сір! Мы глыбока верым, што Бог і Напалеон уратуюць Францыю!

— Ваша вера слушная напалову, — адказаў імператар.

*При передруку спасылка на NS абавязковая*

Наша Слова (1)

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 1 Наклад 2292 паасобнікі.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Падпісана ў друк 31.12.1996 г. у 15 гадзін.